BIELARUS
Byelorussian Newspaper in the Free World
Published monthly by
BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION, Inc.,
166 — 34 Gothic Drive, Jamaica, N. Y. 11432.
Subscription $ 6.00 yearly.

„БЕЛАРУС" —Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце
Выходзіць месячна. Рэдагуе Калегія.
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне
Выпіска зь перасылкаю — 6 дал. на год.

## ЗА САЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ ЗАСЛОНАЙ

Бальшавіцка-маскоўскія ўладары адзначылі сваё 50-годзьдзе чародным бязьлітасным актам зьдзеку й гвалту над людзкасьцяй і над народнай воляю: маем наўвеце вайсковы падбой і тэрор у Чэхаславаччыне. Пры гэтым яны вульгарна й нахабна абвесьцілі, быццам сваю дактрыну, сваё права, бараніць „сацыялізм" у сваіх сатэлітаў ад „імпэрыялістычнае загрозы" Захаду. Як-жа цынічна й парадксальна гучыць гэтая заява! Таксама й 50-ыя ўгодкі абвешчаньня Беларускай ССР маскоўскія верхаводы адзначылі ўзмацненьнем гэтак званага ідэялягічнага наступу супраць праяўленьняў сілаў свабоды сярод беларускага народу й ягоных імкненьняў да выяўленьня сваёй нацыянальнай існасьці ў культурным разьвіцьці.

У ролі абаронькаў сацыялізму выступілі якраз тыя, што ў сваёй нявольніцкай дзяржаве ўвялі антысацыялістычны, антынародны лад, хвалькліва назваўшы сваю дзяржаву Саюзам Савецкіх Сацыялістычных Рэспублікаў.

Пры ўтварэньні гэтага „Саюзу" адбылося якраз тое самае, што леташ у Чэхаславаччыне, якая хацела пазбавіцца каляніяльнага стану і ўвесьці ў сваім гаспадарстве нейкую норму сацыялізму — народаўпраўства, што, пэўне-ж, пярэчыла-б бальшавіцкім каляніяльна-імпэрыялістычным імкненьням.

Таксама хвалькыае абазначэньне „Савецкіх". Хоць саветы фармальна існуюць, але іх назначае партыйнае кіраўніцтва, бо-ж савецкія выбары — абсалютны хвальш. І склікаюцца гэныя саветы, перадусім Вярхоўны Савет рэдка і толькі патое, каб ягоныя дэпутаты акляімацыямі (бо-ж заўсёды мусіць быць аднагалоснасьць!) прынялі ўжо ўведзеныя пастановы ЦК партыі. Чынным пры гэтай акцыі ў дэпутатаў бываюць толькі далоні. І сьмешна, і парадксальна, але — факт! Хто-б адважыўся выступіць супраць пастановаў партыі, таго чакае доўгае зьняволеньне або й зьнішчэньне.

Найбольш недарэчны назоў „Сацыялістычных". У чым выяўляецца гэны „сацыялізм"? Ці ў канцэнтрацыйных лягерах, дзе загінулі дзесяткі міліёнаў людзей дый цяпер пакутуюць нявольнікі пераважна ні перад кім нявінаватыя? Ці ў ваднаўленьні прыгону? Ці ў пазбаўленьні права выбару месца жыхарства ды ўстанаўленьні „зялезнай заслоны" ад вольнага сьвету? Ці ў антырэлігійным тэроры ды ў вабвешчаньні зямных „бажкоў", як Ленін ці Сталін? Ці ў спэцыяльных харчовых магазынах для новае клясы партыйцаў, куды ні работнік, ні калгасьнік ня маюць права ўваходу? Ці ў вабсалютным бяспраўі ўсяго народу й поўнай самаволі партыйнае верхавіны?...

Можа хто-небудзь пакажа на калгас, як на сацыялістычную форму землякарыстаньня. Але-ж калгас ня ёсьць супалкай вольных людзей. Калгасы, як і хвабрыкі, дзяржаўнае працпрыёмства, а калгасьнік — дзяржаўны раб. Можа хто-небудзь будзе апраўдваць назоў „сацыялістычных" тым, што ўсім жыцьцём краю кіруе дзяржава. Але якая-ж розьніца між тым, калі некалі кіраваў дзяржавай Іван Грозны з апрычнікамі, а тым, калі ёю кіраваў Ленін із „чрэзвычайкамі"? Гэта паняцьці зусім раўназначныя, а дзейнасьць Івана й Ільліча — аднолькавая. Для Івана й ягоных спадкаемнікаў Расея была „вотчынай", і для Леніна й ягоных наступнікаў — СССР таксама „вотчына". А народ?... „Народ безмолствует" — казаў пра гэныя часы Пушкін. Ці-ж ня тое самае й цяпер? Розьніца між Іванамі й Ільлічамі хіба адно ў тым, што Ільлічы пралілі народнае крыві ў сотні разоў больш. Дарма апраўдваць бальшавіком свае крывавыя ўчынкі клясавым змаганьнем. Абсалютная хлусьня! Тых клясавых ворагаў налічыў-бы ня шмат. А дзесяткі міліёнаў былі вымардаваныя ня клясавых ворагаў, а працоўнага люду, што не гарнуўся да бальшавізму, ычуваючы ў сім свае няшчасьце.

Бальшавікі ў сваёй прапагандзе называюць заходнія краі манапольна-капіталістычнымі, не зважаючы на тое, што ў іхнай дзяржаве манапольна-дзяржаўны капіталізм выяўляецца ў найзырчэйшай форме, а работнік эксплятуецца, як нідзе ў сьвеце. Усе тыя атрыбуты сацыялізму, якія падавалі тэарэтыкі сацыялізму, як свабода, роўнасьць, братэрства, вольнасьць сумленьня, слова, друку, вольныя й роўныя для ўсіх выбары, а таксама роўная ахова перад законам, патаптаньныя й зьняважаныя. А ўсё гэта заменена абсалютнай самаволяй нешматлікай групкі партыйных цівуноў. Існасьць бальшавізму — поўная самаволя ўладарных верхаводаў і абсалютная ігнарацыя права й законаў, выдадзеных імі самымі для людзкога вока. Калі-б бальшавікі трымаліся напісаных імі законаў, яны ўжо ня былі-б бальшавікамі.

Машыну самаволі, гвалту, зьдзеку зь людзей і з усіх сацыялістычных прынцыпаў пусьціў у ход Ленін. Ён-жа увёў апрычніну-чрэзвычайку, даў ход хвалькываму агітпропу, накрэсьліў плян кіраваньня дзяржавай. Рухавік гэты круціцца бязь зьменаў і дагэтуль. Сталін нічога новага ня выдумаў. Ён быў толькі тыповым бальшавіком і найбольш зырка выявіў існасьць бальшавізму. Гэтак званае разьвянчаньне Сталіна ніякіх зьменаў ня прынесла, апрача ўвядзеньня больш завуаляваных спосабаў ціску й гвалту. Ленінізм-сталінізм-бальшавізм—паняцьці абсалютна раўназначныя.

На вецер пускаў словы Ленін, што „ў нас кухарка будзе правіць дзяржавай". Кухарка гэтак правіць, што ў 50 год становіцца няздольнай да працы, а зьнямогшыся, атрымлівае 12 рублёў у месяц пэнсіі на забясьпечаньне старасьці.

Усе свае крывавыя ўчынкі раней бальшавікі стараліся апраўдаць змаганьнем за сацыялізм, так як цяпер хочуць апраўдаць іх абаронай сацыялізму ды пабудовай камунізму. Тэарэтыкі бальшавізму насьміхаюцца з гэтак званага „абстрактнага" агульначалавечага гуманізму на Захадзе, а сваю ўладу абаперлі яны на зьвярыных праявах людзкой натуры і, замацаваўшы яе на базе маскоўскага імпэрыялізму, утварылі тое, што афіцыйна завецца Саюзам Савецкіх Сацыялістычных Рэспублікаў. У запраўднасьці-ж, гэта чыста каляніяльная імпэрыя з тыранскай уладай на версе.

У СССР галоўная ўвага й вялізарныя матарыяльныя затраты прызначаюцца на прапаганду, асноўнае заданьне якой — прыкрыць страшную істоту бальшавізму сацыялістычнай вопраткай. Нажаль, у вольным сьвеце шмат людзей, часта й адказныя дзяржаўныя мужы ацэньваюць СССР не паводля наяўнага стану рэчаў, а паводля паказьнікаў хвалькывай прапаганды. Тымчасам будучыня чалавецтва вымагае адхіліць сацыялістычную заслону із СССР ды паказаць яго такім, якім ён у запраўднасьці.

**Н-цкі**

### „СЫМБАЛІЧНАЕ" ЎШАНАВАНЬНЕ

Як паведаміла агенцтва Ройтэрс 2 сьнежня 1968 г., Старшыня Генэральнае Асамблеі Задзіночаных Нацыяў Эмільлё Арэналес абвесьціў прозьвішчы асобаў, якім прызнаныя ўзнагароды АЗН, устаноўленыя ўпяршыню, за дасягненьні ў галіне людзкіх правоў. Сярод узнагароджаных апынуўся й грамадзянін Савецкае Украіны ды Савецкага Саюзу зь вельмі адпаведным прозьвішчам для гэткае ўзнагароды — Пётр Нядбайла.



# 48-Я ЎГОДКІ СЛУЦКАГА ЗМАГАНЬНЯ

## У НЬЮ ЁРКУ

Дзень Гэрояў у Нью Ёрку быў урачыста адзначаны Галоўнай і Ньюёркаўскай Акруговай Управамі БАЗА ў нядзелю 8 сьнежня. Пасьля Паніхіды па Слуцкіх Змагарох, адпраўленай Уладыкам Васілём у суслужэньні а. Васіля Кендыша, ладная грамада Беларусаў Нью Ёрку й прадстаўнікі Беларусаў Нью Брансьвіку на чале із старшынём Аддзелу БАЗА ў Нью Джэрзі С. Гутырчыкам зышліся ў залі Беларускага Грамадзкага Цэнтру (пад царквой), каб ушанаваць сьветлую памяць тых, што памерлі, каб жыла Бацькаўшчына. Урачыстасьць была спалучаная з ушанаваньнем памяці нядаўна памерлага выдатнага беларускага вайскавіка, актыўнага ўдзельніка беларускай вайсковай справы яшчэ ў часы змаганьня БНР за незалежнасьць Беларусі, арганізатара беларускіх вайсковых аддзелаў у часе мінулае вайны ды галоўнага старшыні Задзіночаньня Беларускіх Вэтэранаў на эміграцыі Генэрала Франьцішка Кушаля.

Акадэмію адчыніў ад імя Задзіночаньня Беларускіх Вэтэранаў і Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня старшыня ягонае Галоўнае Управы Ул. Курыла даўжэйшай прамовай пра беларускае вызвольнае змаганьне ды прывітаў прысутных у залі Уладыку Васіля, а. Васіля Кендыша й жонку ген. Ф. Кушаля паэтку Натальлю Арсеньневу ды ўсіх прысутных.

Кароткі, але старанна апрацаваны даклад „Змаганьне БНР: Слуцкі Фронт" (друкуецца асобна) прачытаў д-р Вітаўт Кіпель. З успамінамі пра ген. Ф. Кушаля й разам з тым на тэму беларускага вызвольнага змаганьня выступалі д-р В. Тумаш, С. Гутырчык, Ул. Русак, д-р Ул. Набагез, М. Абрамчык (малодшы) і Б. Данілюк.

Вучні беларускай нядзельнай школы Алеся Кіпель, Ніна й Вера Запруднік, Ліда Данілюк і Юрка Курыла дэклямавалі беларускія патрыятычныя вершы. Наапошку хор пад кіраўніцтвам А. Каптуровіча добра прапяяў беларускія патрыятычныя песьні „Сьпі пад курганам гэрояў", „Ціха і плаўна ўдаль коцяцца воды", „Ідуць жаўнеры Беларусы".

Урачыстасьць закончылася беларускім нацыянальным гімнам.

## У НЬЮ БРАНСЬВІКУ

Сьвяткаваньне Дня Гэрояў у Нью Брансьвіку ладзілі ў нядзелю 1 сьнежня мясцовы Аддзел БАЗА і Аддзел Задзіночаньня Беларускіх Вэтэранаў. Урачыстасьць пачалася Паніхідай за ўсіх тых, што аддалі сваё жыцьцё за Бацькаўшчыну, адпраўленай а. Васілём Кендышам у царкве БАПЦ Жыровіцкае Божае Маці ў Гайлэнд Парку. У часе Паніхіды ў царкву былі ўнесеныя амэрыканскі й беларускі сьцягі сябрамі ЗБВ пад камандай старшыні Аддзелу ЗБВ С. Гутырчыка.

Пасьля Багаслужбы адбылася ў залі Беларускага Грамадзкага Цэнтру ўрачыстая акадэмія. Акадэмію адчыніў старшыня С. Гутырчык, які пасьля кароткае прамовы перадаў слова для дакладу сп. В. Стому.

Прамоўца, узяўшы за тэму „Чаму гісторыя паўтараецца?", даводзіў на прыкладах, што яна паўтаралася й будзе паўтарацца да таго часу, пакуль існуе маскоўская імпэрыя, што вось ужо колькі стагодзьдзяў жыве лятуценьнямі аб панаваньні над цэлым сьветам.

Пасьля гэтага з палымянымі прамовамі выступілі а. Васіль Кендыш і старшыня Галоўнай Управы БАЗА Ул. Курыла.

Урачыстасьць закончылася прапяяньнем усімі прысутнымі беларускага нацыянальнага гімну.

Пры гэтай нагодзе Управа Аддзелу БАЗА і Управа Аддзелу ЗБВ складаюць шчырую падзяку а. Васілю за адслужэньне Паніхіды й прыгожае казаньне, а таксама сп. Ул. Сьліўку за дапамогу пры дэкарацыі сцэны й за выкананьне прыгожых апасак, якія ў далейшым будуць ужывацца на парадах і пры вынасе сьцягоў. **Адзін з Управы**

## У БРАДФАРДЗЕ

У нядзелю 24 лістапада Брадфардзкая калёнія Беларусаў у Ангельшчыне ўрачыста адзначыла Дзень Гэрояў Беларусі. Раніцай у капліцы сьв. Спаса была настаяцелем БАП Царквы ў Вялікай Брытаніі а. Янкам Абабуркам адслужаная сьв. Літургія й Паніхіда за ўсіх тых, што аддалі сваё жыцьцё, каб жыла Бацькаўшчына. Глыбокі патрыятычны настрой выклікала вельмі прыгожая казань а. Янкі Абабуркі.

Пасьля Багаслужбы адбылася ў залі Беларускага Грамадзкага Дому сьціплая акадэмія з рэфэратам сп. Янкі Калбасы. Хвілінаю цішыні й супольным прапяяньнем „Сьпі пад курганам гэрояў" прысутныя ўшанавалі памяць гэрояў, што загінулі за Беларусь. **Янка Крушына**

## У МЭЛЬБУРНЕ

Як і мінулымі гадамі, сьвяткаваньне 48-ых угодкаў Слуцкага Змаганьня ладзіў у Мэльбурне Беларускі Цэнтральны Камітэт у нядзелю 1-га сьнежня ў добра ведамай Беларусам Мэльбурну залі на Футскрэй.

Урачыстую акадэмію адчыніў заступнік чарговага старшыні Камітэту сп. М. С. Прывітаўшы прысутных, ён даўжэй затрымаўся над жыцьцём і дзейнасьцяй выдатных беларускіх вайскавікоў — сьв. пам. ген. Кастуся Езавітава й нядаўна памерлага сьв. пам. ген. Франьцішка Кушаля. Хвілінаю цішыні была ўшанаваная іхная і ўсіх беларускіх змагароў сьветлая памяць.

Рэфэрат на тэму дня прачытаў сп. У. Сідлярэвіч. Ён коратка, але зьмястоўна прааналізаваў пэрыяды славы, заняпаду й адраджэньня беларускага народу, засяроджваючыся галоўна на збройным змаганьні Случчакоў і беларускіх вайскавікоў часоў Другое сусьветнае вайны. Закончыў ён свой даклад агульнай ацэнай сусьветнай сытуацыі й словамі надзеі на перамогу й нашай нацыянальнай справы.

Пасьля гэтага прысутныя з увагай праслухалі з магнітафоннай стужкі песьні ў выкананьні мяшанага беларускага хору й дэклямацыю з апошняй Сакавіковай акадэміі ў Мэльбурне, а таксама два мантажы: „Зьвіняць званы сьвятой Сафіі" Алеся Салаўя й агляд творчасьці Алеся Гаруна. Акадэмія была закончаная нацыянальным гімнам.

Тыдзень перад акадэміяй, у нядзелю 24 лістапада ў мясцовай БАПЦ а. А. Кулакоўскі адслужыў Паніхіду па Слуцкіх гэроях і сказаў прынагодную казань.

Як ужо ўвайшло ў звычай, падчас акадэміі наш прэсавы прадстаўнік зарганізаваў стэнд зь беларускімі газэтамі, кніжкамі й грамафоннымі кружэлкамі. **М. Н.**

## У КЛІЎЛЕНЬДЗЕ

15 сьнежня Аддзел БАЗА ўрачыста адзначыў 48-ыя ўгодкі Слуцкага Збройнага Чыну. Пасьля Літургіі, Уладыка Андрэй у васысьце Пратадыякана Калістрата й Дыякана Міхася адправіў Паніхіду па ўсіх тых, што аддалі сваё жыцьцё на аўтар Бацькаўшчыны. Хор пад кіраўніцтвам сп. К. Кіслага сваім цудоўным сьпевам павялічваў малітоўны настрой.

Папаўдні ў залі БАПЦарквы адбылася жалобная акадэмія. Старшыня Аддзелу БАЗА адчыніў акадэмію й папрасіў хвілінай цішыні ўшанаваць „тых, што пайшлі паміраць, каб жыла Бацькаўшчына", як было вышыта беларускімі жанчынамі на баявым сьцягу Случчакоў. Рэфэрат прачытаў дыякан Міхась Страпко. Вучні Беларускае сыботняе школы выступалі з патрыятычнымі дэклямацыямі. Урачыстасьць закончылася прапяяньнем беларускага нацыянальнага гімну.

**Ул. Д.**

# СПУСТАШЭНЬНЕ

### БАЛОТЫ, БАЛОТЫ, БАЛОТЫ...

„Сумны пэйзаж дарэвалюцыйнай Беларусі. Ціха нясе свае воды Прыпяць. Бяжыць яна па дрымучых лясох і раўнінах, міма ціхіх палескіх вёсак, агібаючы маленькія вузкія палескі астраўкоў. І на ўсім шляху — балоты, балоты, балоты. Бедная зямля і бедныя людзі, якія жывуць на ёй.

Гэты малюнак перад наведвальнікамі павілёну „Мэліярацыя і водная гаспадрака" на ВДНГ*) раскрывае дыяграма „Палеская нізіна"..." (Зьвязда, № 31, 7 лютага 1968 г.).

Вобраз гэты й запраўды знаёмы, ды ня толькі з дарэвалюцыйнае пары, як гэта маніцца намаляваць савецкая прапаганда, але й пяцьдзесят гадоў пасьля.

Бо, наўсуперак прапагандавым бубнам, больш аб'ектыўныя савецкія-ж навуковыя й статыстычныя інфармацыі паказваюць, што й дасюль каля трэйцяе часткі тэрыторыі БССР займаюць балоты й забалочаныя землі або, дакладней кажучы, каля 7.000.000 га лішня вогкіх грунтаў патрабуюць пасушэньня, у гэтым ліку 2.000.000 га тарфовішчаў і запраўдных балотаў.

Аднак, цьвяроза гаворачы, цяжка вінаваціць за гэты факт дарэвалюцыйныя, а навет і пасьлярэвалюцыйныя, хоць і ўсе разам нялюдзкія ўлады, што няволілі й няволяць Беларусь да сяньня.

Прычына гэтае зьявы ў тым, што паводля кліматычна-глебавых умоваў Беларусь належыць да зоны ня толькі дастатковага, але й навет лішняга ўвільгатненьня. Колькасьць атмасфэрных ападкаў дасягае ў нас 500-600 мм у год.

Ды даждлівасьць не адзіная прычына забалочаньня. Навуковыя дасьледваньні выявілі, што замочваюць зямлю ня толькі паверхнявыя воды, але й падземныя, што выцякаюць з глыбокіх пластоў, як часта бывае, пад моцным ціскам.

Асабліва складаныя ўвомы абваднення грунтаў у паўдзённай частцы Беларусі, г. зн. на Палесьсі, дзе балоты й забалочаныя землі займаюць каля 40% усяе паверхні.

Вясною, а парой і ўвосень гэтта здараюцца шырокія й працяглыя паводкі. Аднак праз няроўнасьць атмасфэрных ападкаў ды дзеля прасочнасьці пясковых глебаў, няраз, у другой палове травеня ды ў чырвені ў зямлі ўжо ня стае вогкасьці для расьліны, а агулам бяручы, з трох летаў — два бываюць звычайна засушныя.

Ды побач з забалочаньнем выяўляецца тут і зусім адваротнае, бо звыш 250 тыс. га Палескае прасторы займаюць недастаткова змочаныя пяшчаныя грунты, што разьвейваюцца вятрамі.

У запраўднасьці, трэба сказаць, што Палесьсе гэта ня край адзіных балотаў, але больш за ўсё лясоў, пяскоў, ды ўрэшце ўжо балотаў.

Таму звужваньне ўяўленьня аб Палесьсі да адных „балотаў, балотаў, балотаў..." значна адхіляецца ад праўды, а як далей пабачым, яно й вельмі небясьпечнае, калі ствэрыцца ў мазгох людзей з дастатковай уладай жаданьне, каб перасягнуць фараонскія пабудовы.

Праблема палепшаньня й пашырэньня годных да сельска-гаспадарскага скарыстаньня земляў на Палесьсі ня новая й бязумоўна актуальная, але не абмяжоўваецца да зьліцьця лішняе вады з балотаў, не мяркуючы, як з начовак, бо залежыць ад магчымасьці паправы воднага балянсу, як на перамочаных, гэтак і на сухіх дзялянках ды захаваньня наяўных, трэба сказаць, прыхільных кліматычных і прыродных умоваў.

Дасягнуць гэтага нельга наўгад. Як нідзе, якраз у гэтай справе патрэбныя, сьпярша ўсебаковае, глыбокае й працяглае вывучэньне Палесься пад кажным паглядам, што асушэньне можа закрануць, а пасьля ўжо на гэтай аснове разумнае й асьцярожнае плянаваньне тэхнічнага выкананьня й эканамічнага выкарыстаньня для ўсяго раёну штонайменш.

Занядбаньне, або й абмін гэтае перадумовы асушэньня, а ў выніку — магчымасьць невуцкіх маніпуляцыяў, у прыродзе пагражае згубнымі вынікамі, ня толькі для самога Палесься й ягонага насельніцтва, але й для ўсяе Беларусі ды сумежных краёў.

### ...А ПА ІХ — ЦАЛІНА!...

„...Але вось экскурсавод націскае кнопку, — і перад вачыма зусім іншае відовішча. Не пазнаць палескіх мясьцін, дзе Прыпяць нясе свае воды. Там, дзе стаялі цёмныя хацінкі, — сучасныя саўгасныя пабудовы... Тут-жа жылы пасёлак ...Крыху воддаль — магутныя бульдозэры і экскаватары вядуць мэліярацыйныя работы. А на асушаных землях шумяць бясконцыя нівы.

Шчодра вылечаная чалавекам зямля...". (Зьвязда, № 31, 7 лютага 1968 г.).

Зусім, як гэны экскурсавод, узя-

*) ВДНГ — Выстаўка Дасягненьняў Народнай Гаспадаркі ў Маскве.

